Жыве Беларусь!



# Народная Газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№221 (734) 12 лістапада 1993 г. Пятніца. Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. Тыраж 500400 экз. Кошт у розніцу — 25 руб.


## ФАКС

### Вкратце

**В Москве состоялась презентация нового журнала "Праваслаўе ў Беларусі і свеце".**

Он учрежден Белорусским православным братством трех виленских мучеников, польским кирилло-мефодиевским православным братством и представителями белорусских православных церквей зарубежья.

❑

**На 12 ноября запланирована поездка в Москву для встречи с белорусскими организациями представителей згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына".**

Цель поездки — знакомство с деятельностью крупнейшей российской организации белорусов. Одновременно должны пройти и переговоры о создании Союза белорусов России.

❑

**Около 1200 молодых людей от 14 до 16 лет из независимых государств, образовавшихся на территории бывшего СССР, будут учиться в 1994—95 году в средних школах США.**

Выбор кандидатур для поездки в Штаты проводится на открытой конкурсной основе. В областных центрах Беларуси он уже состоялся, а 20 ноября начнется в Минске.

❑

**Крайне тревожной оставалась вчера обстановка в Зугдиди и прилегающих к нему районах западной Грузии.**

Сторонники экс-президента Звиада Гамсахурдиа под командованием полковника Лоти Кобалия, укрывшиеся в селе Ачигвара Гальского района Абхазии, совершают дерзкие вылазки.

❑

**Землетрясение силой 5,7 балла по шкале Рихтера произошло вчера утром в северных префектурах японского острова Хонсю.**

Сведений о жертвах и разрушениях нет. Накануне слабое землетрясение силой 1—2 балла произошло в районе Токио.

❑

**Горняки объединения "Воркутауголь" начали утром в четверг суточную предупредительную забастовку.**

В ней участвуют 13 шахт и шахтостроительное управление города. Шахтеры требуют безусловного выполнения закона о государственных гарантиях и компенсациях для лиц, проживающих в районах Крайнего Севера, а также выплаты задержанной зарплаты за сентябрь.

❑

**В ночь на 11 ноября пресечены две попытки прорыва боевиков таджикской оппозиции и афганских моджахедов из Афганистана на участке 10-й заставы Пянджского погранотряда.**

После перестрелки с российскими пограничниками нарушители отошли на сопредельную территорию. Среди пограничников пострадавших нет.

❑

**Президент Украины Леонид Кравчук заявил, что правительство Украины и Верховный Совет в его нынешнем составе не могут вывести страну из кризиса.**

В подготовленном Кабинетом министров Украины, номинально возглавляемом президентом, документе Верховному Совету Украины предлагается предоставить президенту Украины чрезвычайные полномочия в области экономики, в том числе право издавать и изменять законодательные акты.

❑

**С 15 ноября для сотрудников органов государственного управления и местного самоуправления Молдовы вводится единый режим работы — они будут начинать рабочий день в 8.00 и заканчивать его в 17.00.**

Такое решение приняло правительство республики с целью снижения потребления электроэнергии.

❑

**Постановлением президента Туркменистана утвержден перечень товаров, освобождаемых в ноябре от налога на добавочную стоимость.**

В перечень вошли в основном продовольственные товары, винно-водочные изделия, а также хлопок-сырец и строительные материалы.

❑

**По данным Центризбиркома России, к 11 ноября кандидатами в депутаты Государственной Думы по одномандатным избирательным округам выдвинуто 1149 человек, из которых 30 уже зарегистрированы.**

В Государственной Думе для депутатов от одномандатных округов зарезервировано 225 мест из 450.




Рисунок Олега ПОПОВА.

### "Белый дом" снова стал белым

**Здание бывшего Верховного Совета снова приобрело свой нормальный внешний вид.**

Для этого московским верхолазам ремонтникам и специальной воинской части потребовалось чуть больше трех недель. Очистить почерневшие во время обстрелов и пожаров мраморные плиты от гари и копоти помогли чудодейственные эмульсии, применяемые до сего времени только в военном ведомстве. Они строго засекречены.

Теперь о недавней трагедии напоминают лишь выбитые на всех этажах стекла окон, заделанные временно древесными плитами. А само здание по-прежнему обнесено неприступной каменной стеной, за которую пропускают только охранников и ремонтников.

**Леонид ФАДЕЕВ.**

### Звездный миг балета

**Определены участники Витебского международного фестиваля современной хореографии, который состоится в конце ноября.**

Из 47 претендентов, приславших видеозаписи своих выступлений в программе конкурса, допущен 21 коллектив, среди них — артисты из России, Беларуси, Украины, Литвы, Эстонии и других стран, в том числе — всемирно известный санкт-петербургский государственный академический театр балета "Хореографические миниатюры" и нашумевший за рубежом Пермский театр Е.Панфилова.

**Сергей БУТКЕВИЧ.**

### Беларусь на новой орбите

**Правительство Беларуси приняло решение финансировать межгосударственную программу исследований и использования космического пространства, которую белорусские ученые и производственники будут выполнять вместе с коллегами из других стран СНГ.**

Как сообщил председатель республиканского совета по космосу при Президиуме Верховного Совета Беларуси Борис Берегов, "это будет долевое участие в финансировании отдельных работ, которые ведутся в белорусских исследовательских центрах и на предприятиях космического профиля.

Работа по программе не включает в себя заказы военных.

### Пути опять сходятся

**Российский министр путей сообщения Г.Фадеев и министр транспорта и коммуникаций Беларуси С.Шкапич подписали протокол о сотрудничестве по материально-техническому обеспечению железнодорожного транспорта двух государств в 1994 году.**

В целях нормального функционирования железных дорог обе стороны договорились о взаимной поставке техники, оборудования, запасных частей и материалов, ремонте подвижного состава и, что очень важно, ежеквартальном проведении взаиморасчетов платежей.

**Ирина СЕРЕГИНА.**

### Все меньше в Витебске детей

**Естественный прирост населения в Витебске перестал восполнять сокращение жителей в связи со смертью.**

По данным госстатистики, за январь—сентябрь в сравнении с таким же периодом прошлого года число новорожденных уменьшилось на 14,2 процента, а умерших стало больше на 16,8 процента. На сто бракосочетаний пришлось 73 развода вместо 60 в прошлом году.

**Степан АРХИПОВ.**

### Век лепельской погоды

**Профессия синоптика одна из старейших в Лепеле.**

Оказывается, государственная метеослужба появилась здесь еще сто лет назад, что и послужило поводом для скромного торжества ее современных представителей. . С 1893 года, с перерывами на революционные и военные события, местные наблюдатели и предсказатели погоды усердно несут свою вахту, накопив бесценный материал о климатических процессах.

**Сергей СЕРГЕЕВ.**

### Чахоточная медицина?

**На аптечных складах Могилева, как заявил заведующий оргметодкабинетом противотуберкулезного диспансера Иосиф Гриб, не осталось ни одного грамма тубазида — основного туберкулезного препарата.**

Нужный медицинский препарат есть где приобрести, но нет в наличии российских рублей.

**Николай ЗАПОЛЬСКИЙ.**

### А кто безгрешен?

**В заметку "Цыплята, смирно!" ("НГ" за 29.06.93 г.) вкралась неточность.**

Как сообщили из Витебской торговой инспекции, фокусы с переводом цыплят в куриное "достоинство" происходили не в санатории "Лётцы", как неверно сообщил корреспондент, а в других оздоровительных учреждениях области. И хотя "Лётцы" тоже не без греха (там проверяющие отметили необоснованное списание продуктов, наличие их излишков на складе и т.п.), мы, естественно, приносим извинения за ошибку.

**Выпуск подготовлен по сообщениям корреспондентов "Народной газеты", агентств ИТАР—ТАСС, Белинформ, Интерфакс, БелаПАН и РИД.**

## Ці адкажа сесія Вярхоўнага Савета на пытанне:

# "Як выжыць пры сённяшніх цэнах і заробках?"

Вы калі-небудз[...]зілі на прыём да ўрача, які б сядзеў за сталом ў ватоўцы? Відаць, не за гарамі той час, калі гэта карціна стане ў модзе, бо як, напрыклад, глядзець на гэты касцюм, цана якога 159 тысяч 300 рублёў, маладому і поўнаму моцы хірургу Любанскай раённай бальніцы Прыбушэню Івану Іванавічу, заробак якога ў мінулым месяцы з усімі дадаткамі за шкоднасць склаў 81 855 рублёў? Правільна, як на музейны экспанат.




Відаць, некаторыя маючыя ўладу чыноўнікі вырашылі, калі хлеб пакуль што застаецца танным, дык кавалак каўбасы на яго лусту — вельмі неабавязковая раскоша. Калі так, то праілюстраваць гэты пастулат лёгка на прыкладзе пенсіянеркі мінчанкі Наяровіч Алены Васільеўны, пенсія якой 22 930 рублёў. А гэта значыць, што яна не "цягне" і на два кілаграмы гэтага мяснога вырабу.




Усе лепшае — дзецям! Ці не так? На колькі ж гэтага лепшага хопіць маці пяцярых дзяцей, работніцы Мінскага маторнага завода Копелевай Глафіры Аляксандраўне, калі яе 56 170 рублёў, якія яна атрымала ў мінулым месяцы, не хопіць нават на такую цацку, як дзіцячы самалёцік.




Калі вы думаеце, што наша моладзь таўчэцца толькі там, дзе абменьваюць валюту, ды нажываецца на гандлі імпартным шырпатрэбам і амаль уся ездзіць на "Мерседэсах", то глыбока памыляецеся. Студэнтцы 4 курса факультэта радыёфізікі БДУ Афанасьевай Вользе Барысаўне з яе стыпендыяй у 12 750 рублёў цяжка марыць нават аб веласіпедным коле.




*Дыпламатыя ў асобах*

### Карэя прадстаўлена ў Беларусі

**11 лістапада Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Карэя Кім Сок Кю ўручыў вярыцельныя граматы Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіславу Шушкевічу.**

Пасля ўручэння вярыцельных грамат і абмену прамовамі паміж паслом і спікерам парламента адбылася гутарка, у якой прыняў удзел міністр замежных спраў рэспублікі Пётр Краўчанка.



**Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Карэя Кім Сок Кю**

Нарадзіўся 10 сакавіка 1936 года, універсітэцкую адукацыю атрымаў на радзіме. Спецыяліст у галіне паліталогіі. На дыпламатычнай рабоце з 1962 года. Займаў розныя пасады ў цэнтральным апараце МЗС і прадстаўніцтвах за мяжой.

У 1986 годзе назначаны сакратаром прэзідэнта па палітычных пытаннях, у 1980 — намеснікам міністра замежных спраў па палітычных пытаннях. З 1989 па 1992 год узначальваў пасольства краіны ў Італіі. У 1993 годзе назначаны Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Рэспублікі Карэя ў Расійскай Федэрацыі.

Жанаты, мае траіх дзяцей.

**Белінфарм.**

г.Мінск.

*Сустрэчы*

## Абарона інвестыцый — клопаты дыпламатаў

**Першы намеснік міністра замежных спраў рэспублікі Георгій Таразевіч прыняў Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Аргенцінскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Хуана Карласа Аліму па яго просьбе.**

Аб гэтым карэспандэнту Белінфарма паведамілі ў аддзеле інфармацыі МЗС.

У ходзе праведзенай гутаркі асноўная ўвага была ўдзелена пытанням актывізацыі адносін паміж дзяржавамі. Аргенцінскі бок прапанаваў накіраваць у Беларусь у пачатку 1994 года дэлегацыю вядомых экспертаў у розных галінах эканомікі, якія сумесна з беларускімі спецыялістамі абмяркуюць практычныя напрамкі развіцця ўзаемавыгаднага двухбаковага супрацоўніцтва. Пасол Аргенціны перадаў Г.Таразевічу для абмеркавання і ўнясення адпаведных прапаноў у праект пагаднення аб узаемнай абароне інвестыцый. Быў выказаны таксама намер падпісаць у бліжэйшы час двухбаковае пагадненне аб супрацоўніцтве ў галіне культуры.

Па просьбе Х.К.Алімы Г.Таразевіч выклаў сваё бачанне развіцця абстаноўкі ў краінах СНД, праінфармаваў аб асноўных напрамках знешняй палітыкі Беларусі на сучасным этапе і, у прыватнасці, аб узаемаадносінах Рэспублікі Беларусь з суседнімі дзяржавамі.

*Пазіцыя народных дэпутатаў*

## Навошта палохаць людзей

5 лістапада 1993 года Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь прыняў беспрэцэдэнтны антыдэмакратычны зварот "Да грамадзян Рэспублікі Беларусь", у якім, на падставе чутак, грамадзян спрабуюць запалохаць "масавымі беспарадкамі і незаконнымі дзеяннямі".

Такім чынам, Савет Міністраў, які не здолеў справіцца з цяжкай эканамічнай сітуацыяй у Беларусі, у чарговы раз за кошт палітыканскіх захадаў спрабуе адцягнуць увагу грамадзян Беларусі ад краху ягонай эканамічнай палітыкі.

Мы разглядаем зварот Савета Міністраў як канкрэтныя крокі, скіраваныя на распальванне нацыянальнай і сацыяльнай варожасці, увядзенне жорсткай цэнзуры на сродкі масавай інфармацыі, узмацненне напружанасці і страху ў грамадстве, якія і так існуюць з-за мафіёзных структур і росту злачыннасці.

З дапамогай зброі, кантролю над сродкамі масавай інфармацыі, пагрозы рэпрэсій над партыямі, рухамі, прафсаюзамі Савет Міністраў спрабуе адгарадзіцца ад збяднелага грамадства і любой цаной утрымацца на сваіх крэслах.

Заява Савета Міністраў — прыкмета канчатковага банкруцтва ягонай палітыкі, яшчэ адно пацвярджэнне справядлівасці патрабавання неадкладнай адстаўкі Савета Міністраў і правядзення вясной 1994 года нечарговых выбараў у Вярхоўны Савет на падставе новага дэмакратычнага Закона аб выбарах.

Мы заклікаем грамадства не паддавацца на правакацыйныя заявы і дзеянні, ад якога б органа ці асобы яны ні зыходзілі, дамагацца свайго натуральнага права на лепшае жыццё законнымі сродкамі.

**Дэпутаты Мінскага гарадскога Савета народных дэпутатаў:**

**Міхась СТРАЛЬЦОЎ, Зміцер ЖДАНЮК, Уладзімір НОСАЎ, Вольга КУЗЬМІЧ, Георгій КУНЕВІЧ, Андрэй ЗАВАДСКІ, Міхась РАСОЛЬКА, Анатоль ГУРЫНОВІЧ, Галіна ВАШЧАНКА, Мікалай ПУГАЧОЎ, Леанід ЛЕАНОВІЧ, Георгій ЖЫЗНЕЎСКІ, Вячаслаў ЧАРНЯЎСКІ, Яўген КУШМАР, Георгій СТЭЛЬМАХ, Альберт ЛАПУНІН, Васіль КРЫВАНОСАЎ, Аляксандр ЖУЧКОЎ, Аляксандр ДРАНІЦКІ, Леанід НАВУМЕНКА, Міхась ПЛІСКА, Уладзімір МАЦЯШ, Міхась ПАНЬКОЎ, Вячаслаў РАКЕЦКІ, Ірына КАЛЯЕВА, Міхась ГУРЫН, Яўген СЯМАШКА, Станіслаў БЯЛЯЧЫЦ, Мікалай ШЧАРБАК, Сяргей МІХАЕВІЧ, Тадэвуш ЧЫЛЕК, Сяргей ЛАПЦЕЎ, Алег БАБАК, Пётр СЦЯЦКО, Уладзімір ДАБРАВОЛЬСКІ, Міраслаў КОБАСА, Іван БУЛКО, Алег ЯКШЭВІЧ, Тарас МАЗУРЫК.**

*З афіцыйных крыніц*

## Якім будзе свята вызвалення?

**У Вярхоўным Савеце адбылося пасяджэнне Рэспубліканскай камісіі па падрыхтоўцы да святкавання 50-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Заслухана інфармацыя ўрада аб рэалізацыі плана падрыхтоўкі святочных мерапрыемстваў у гарадах і раёнах рэспублікі, з якой выступіў намеснік Старшыні Савета Міністраў М.І.Дзямчук.**

Аб выпуску памятнага Знака, прысвечанага гэтай даце, расказаў старшыня Рэспубліканскага савета арганізацыі ветэранаў А.Я.Андрэеў.

На пасяджэнні камісіі заслуханы паведамленні намесніка міністра інфармацыі І.А.Карэнды аб асвятленні ў сродках масавай інфармацыі ходу падрыхтоўкі да 50-годдзя вызвалення Беларусі і намесніка міністра культуры У.П.Рылаткі аб правядзенні ў дні ўрачыстасцей выставак, конкурсаў і іншых культурных мерапрыемстваў.

Старшыня Камісіі Вярхоўнага Савета па справах ветэранаў і інвалідаў праінфармаваў аб выдзяленні ўрадам фінансавай дапамогі Лёзненскаму раённаму Савету народных дэпутатаў для выканання работ па добраўпарадкаванню і рэканструкцыі могілак і абеліскаў.

У ходзе абмеркавання гэтых пытанняў адзначалася, што памяць аб трагічных і гераічных для нашага народа старонках Вялікай Айчыннай вайны непадуладна часу. Урачыстасці ў гонар знамянальнай даты пройдуць пад знакам удзячнасці прадстаўнікам старэйшага пакалення, былым франтавікам, партызанам і падпольшчыкам, якія мужна змагаліся за вызваленне роднай зямлі.

Урадам будзе прыняты шэраг дадатковых мер па паляпшэнню матэрыяльна-бытавога забеспячэння ўдзельнікаў вайны і сем'яў загінуўшых. Сёння сярод нас жыве каля 250 тысяч ветэранаў вайны, але з кожным годам іх становіцца ўсё менш і менш. Маральны абавязак грамадства — зрабіць іх жыццё годным таго вялікага подзвігу, які здзейснілі яны ў імя Бацькаўшчыны.

Да юбілею рыхтуецца вялікая выстава мастакоў Беларусі, пройдзе рэспубліканскі конкурс патрыятычнай і салдацкай песні, будуць выпушчаны новыя кнігі пра вайну і гераічны подзвіг народа.

Кульмінацыяй усенароднага свята стануць мерапрыемствы ў сталіцы. Урачыстае пасяджэнне і вялікі канцэрт адбудуцца 1 ліпеня 1994 года ў Дзяржаўным тэатры оперы і балета, а 3 ліпеня, у дзень вызвалення Мінска, плануецца шэсце ветэранаў з ускладаннем кветак на плошчы Перамогі, да помнікаў і абеліскаў, у якім прымуць удзел дэлегацыі гарадоў-герояў і актыўныя ўдзельнікі вызвалення Беларусі з суседніх краін. Рыхтуецца масавае свята горада-героя Мінска. Завершацца ўрачыстасці святочным феерверкам.

**Белінфарм.**

